Прачытай сам і перадай другому.

# Народная Воля

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№ 18 (4578)

10 сакавіка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.





САЛІДАРНАСЦЬ



Энтані БЛІНКЕН, дзяржсакратар ЗША:

## «Будзем дабівацца вызвалення Калеснікавай, іншых палітвязняў Беларусі»

Адбылася віртуальная цырымонія ўручэння Міжнароднай жаночай прэміі за адвагу. Гэтую прэмію з 2007 года штогод уручае Дзяржаўны дэпартамент ЗША. Сярод сёлетніх лаўрэатак – палітзняволеная **Марыя Калеснікава**.

На цырымоніі выступілі дзяржаўны сакратар ЗША **Энтані Блінкен** і першая лэдзі Злучаных Штатаў **Джыл Байдэн**. Дзяржсакратар Блінкен падкрэсліў, што ЗША працягнуць дабівацца вызвалення ўсіх палітычных вязняў у Беларусі, у тым ліку Марыі Калеснікавай.

Джыл Байдэн сказала, што справядлівыя выбары ў Беларусі паспрыяюць узмацненню дэмакратыі ў ЗША. Яна адзначыла, што ў сучасным свеце праблемы не спыняюцца дзяржаўнымі межамі. *«Ваша змаганне – гэта наша змаганне»*, – сказала першая лэдзі ЗША, звяртаючыся да лаўрэатак прэміі.

*«Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 9 жніўня 2020 года беларускія жанчыны сталі дамінантнай палітычнай сілай і рухальнай сілай грамадскіх перамен у Беларусі, у немалой ступені дзякуючы Марыі Калеснікавай*, – гаварылася ў ранейшым паведамленні Дзярждэпартамента ЗША. – *Пасля таго як улады пасадзілі ў турму або выслалі трох самых папулярных апазіцыйных кандыдатаў-мужчын, Марыя і яе партнёры кінулі гістарычны выклік 26-гадоваму праўленню Аляксандра Лукашэнкі. Марыя, працягваючы заставацца тварам апазіцыі ўнутры Беларусі, мужна перажывае турэмнае зняволенне пасля спрэчных выбараў. Нягледзячы на сваё затрыманне, Марыя працягвае падтрымліваць дэмакратычны рух унутры Беларусі і служыць крыніцай натхнення для ўсіх тых, хто імкнецца заваяваць свабоду для сябе і сваіх краін».*

Акрамя Марыі Калеснікавай лаўрэатамі прэміі сталі грамадзянскія актывісткі з М'янмы, Камеруна, Кітая, Калумбіі, Дэмакратычнай Рэспублікі Конга, Гватэмалы, Ірана, Непала, Самалі, Іспаніі, Шры-Ланкі, Турцыі, Венесуэлы, а таксама пасмяротна сем актывістак з Афганістана, забітыя ў 2020 годзе.

У НУМАР!

Юрась ГУБАРЭВІЧ:

## «Разлічваем на велізарную колькасць людзей…»

*Кіраўнік руху “За свабоду” распавёў “Народнай Волі” пра тое, ці можа стаць святкаванне Дня Волі агульнанацыянальным мітынгам.*

Учора ў Мінгарвыканкам была пададзена заяўка на правядзенне ў сталіцы масавага мерапрыемства, прысвечанага Дню Волі. Заяўка паступіла ад трох юрыдычных асоб – руху “За свабоду”, ГАА “БНФ “Адраджэнне” і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада).

– Мэта мерапрыемства – святкаванне 103-х угодкаў з дня абвяшчэння БНР і ўзняцце тэмы нацыянальнага кансэнсусу па пытанні незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, – кажа **Юрась ГУБАРЭВІЧ**. – Мы адмыслова ставім перад сабой мэту дамагчыся афіцыйнага дазволу на правядзенне акцыі, што дазволіць яе ўдзельнікам адчуваць сябе ў бяспецы.

**– Дазвол на выкарыстанне якой пляцоўкі вы просіце ў гарадскіх улад?**

– Паводле заканадаўства, мы не маем права разгалошваць дату, месца і час правядзення мерапрыемства, бо гэта аўтаматычна можа пацягнуць за сабой адмову ў задавальненні заяўкі. Адзінае, што магу сказаць: у выпадку станоўчага адказу мы можам разлічваць на велізарную колькасць удзельнікаў. Нават калі рашэнне па законе агучаць за пяць дзён да пачатку святкавання.

**– У заяўцы павінна быць указана прыкладная колькасць людзей, якія могуць узяць удзел у акцыі. Якую лічбу вы называеце?**

– Паколькі мы разлічваем на вялікую колькасць людзей, то заяўку падалі ад юрыдычных асоб, што дазваляе збіраць больш за тысячу чалавек. Дакладную колькасць удзельнікаў назваць не змагу, але гэта дастаткова вялікая лічба.

**– Ці зможаце арганізаваць сапраўды агульнанацыянальны мітынг альбо гэта будзе традыцыйная акцыя апазіцыі, якая збярэ ўсяго некалькі тысяч чалавек?**

– Выхад соцень тысяч чалавек не залежыць ад той лічбы, якая ўказана ў заяўцы. Тут будуць працаваць іншыя фактары. Паўтаруся: калі мерапрыемства дазволяць, то народу будзе шмат, бо тэма незалежнасці сёння надзвычай актуальная для многіх. Гэта звязана і са знешнімі пагрозамі, і з унутранай палітыкай.

Попыт у грамадстве на тое, каб быць пачутым, застаецца дастаткова высокі. Думаю, ён не меншы, чым у жніўні мінулага года. А тое, што зараз на вуліцу выходзіць не столькі людзей, колькі было ў жніўні альбо верасні мінулага года, – гэта выключна вынік тых рэпрэсій, якія зараз адбываюцца ў Беларусі.

**– Калі збярэцца мала людзей, ці ёсць сэнс наогул ладзіць такія мерапрыемствы?**

– Па-першае, я перакананы, што збярэцца шмат людзей. Па-другое, нават для тысячы чалавек павінна існаваць законная магчымасць выйсці і выказаць сваё меркаванне. Хаця беларусаў і гэтага пазбаўляюць.

**– Ці здольны вы арганізаваць святкаванне чарговай гадавіны БНР такім чынам, каб надаць новы моцны імпульс пратэстнай актыўнасці грамадзян?**

– Пратэстная актыўнасць нікуды не падзелася. Людзі па-ранейшаму вельмі негатыўна ўспрымаюць тое, што адбываецца ў Беларусі, але наша мэта – даць людзям выказацца і не панесці за гэта беспадстаўнае пакаранне.

**– Ці будзе выкарыстоўвацца на мерапрыемстве бел-чырвона-белая сімволіка?**

– У заяўцы мы адзначылі, што разам з плакатамі, расцяжкамі і гукаўзмацненнем мы плануем выкарыстоўваць і нацыянальную сімволіку.

Дарэчы, фармат мерапрыемства запланаваны дастаткова шырокі – ён уключае ў сябе і шэсце, і мітынг-канцэрт.

**– Што будзеце рабіць, калі вам адмовяць?**

– Рашэнне на гэты конт мы яшчэ не прынялі…

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

РАЗБОР ПАЛЁТАЎ

Аляксандр ЯРАШУК:

## «Пакуль нарвежцы ў Беларусі, страйкамаўцы ў бяспецы…»

*Старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў распавёў “Народнай Волі”, чаму іх арганізацыя выступае за тое, каб нарвежцы заключылі кантракт з “Беларуськаліем”, пра канфлікт з “некаторымі асобамі” і абвінавачанні ў свой адрас.*

Нагадаем, што нарвежская кампанія Yara – адзін з буйнейшых сусветных пастаўшчыкоў мінеральных угнаенняў і адзін з ключавых кліентаў Беларускай калійнай кампаніі.

Yara падкрэслівала, што з'яўляецца прыхільнікам ўсеагульных правоў чалавека і падтрымлівае Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека ў яе асуджэнні парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Апошнім часам кампанія з Нарвегіі імкнулася дасягнуць пазітыўных змен праз дыялог з кіраўніцтвам Беларускай калійнай кампаніі і “Беларуськалія”.

Не так даўно страйкам “Беларуськалія” зноў звярнуўся да нарвежскай кампаніі з просьбай не падпісваць кантракт да выканання кіраўніцтвам прадпрыемства вылучаных страйкамаўцамі патрабаванняў.

А днямі стала вядома, што Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) зацікаўлены ў дзейнасці Yara International на беларускім рынку, бо кампанія з'яўляецца *“ўзорам паводзін сацыяльна адказнай кампаніі”*. Некаторыя адразу ж назвалі БКДП *“памагатымі рэжыму”*, якія здрадзілі інтарэсам страйкамаўцаў…

**–** Асобныя людзі ад імя страйкама “Беларуськалія” насамрэч дасылаюць крытычныя стрэлы ў наш бок, хаця, на вялікі жаль, не ўлічваецца меркаванне ўсіх страйкамаўцаў, – кажа **Аляксандр ЯРАШУК**. – Мы спакойна да гэтага ставімся і ведаем: альтэрнатывы таму, што мы прапанавалі, няма і быць не можа. Трэба разумець: пакуль нарвежская кампанія прысутнічае на рынку Беларусі, страйкамаўцы знаходзяцца ў бяспецы.

Мая асабістая адказнасць палягае ў тым, каб заўтра страйкамаўцаў не арыштавалі і не кінулі за краты за тое, што яны заклікалі да скасавання кантракта. У такім выпадку ўсіх сабак могуць павесіць на іх.

Дарэчы, мы атрымлівалі не толькі абвінавачанні ў свой адрас у тым, што сталі “памагатымі рэжыму”, але і мноства слоў падтрымкі ад розных міжнародных арганізацый і структур.

**– Нарвежцы пакуль не вызначыліся з падпісаннем новага кантракта?**

**–** Дзякуй Богу, што Yara вытрымала ціск, які ідзе на яе. На гэтым тыдні на “Беларуськалій” прыязджае з нарвежскай кампаніі група экспертаў па бяспецы працы, яны падрыхтуюць прыезд на прадпрыемства сур'ёзных прадстаўнікоў з Глабальнага саюза IndustriALL.

У такім выпадку мы маем гарантыю, што страйкамаўцаў не арыштуюць і яны будуць у сваіх сем'ях. Акрамя таго, разам з нарвежцамі мы прымусім кіраўніцтва “Беларуськалія” аднавіць на працы тых, хто хоча гэтага.

Напэўна, ні для кога не сакрэт, у якім цяжкім стане знаходзіцца страйк: людзі не працуюць, фонды, якія дапамагаюць звольненым рабочым, таксама абмежаваны ў сродках. Таму, як мне падаецца, страйк знаходзіцца ў тупіковым становішчы, і трэба рабіць нейкія захады, каб выйсці з яго.

Адзін з такіх захадаў – аднаўленне рабочых на працы, выплата ім кампенсацый і прызнанне таго, што рабочыя ў Беларусі маюць права на страйк. У тым ліку і на палітычны.

Таму, калі намі прымалася заява, мы ведалі, на што ішлі. Нехта павінен быў гэта зрабіць. Нельга было пакідаць без наступстваў той ціск, які пайшоў апошнім часам на нарвежскую кампанію, які пачаўся ў СМІ, з боку ў тым ліку і асобных структур апазіцыі, якія знаходзяцца ў бяспецы за мяжой.

Нагадаю, што Yara – адзіная замежная кампанія, якая працуе ў Беларусі і ставіць перад беларускімі партнёрамі ў якасці умоў, неабходных для далейшага працягу супрацоўніцтва, захаванне імі правоў чалавека і правоў працоўных. І за гэта яшчэ напоўніцу атрымала. Нарвежцам нават ішлі пагрозы, пасля чаго служба аховы Yara вымушана была выставіць ахову для кіраўнікоў кампаніі і іх сем'яў. Хіба гэта нармальна, калі адна дыктатура змяняе другую? Хтосьці павінен быў спыніць гэтае паляванне на ведзьмакоў. І гэта зрабілі мы.

**– А як у такім выпадку быць з патрабаваннямі страйкамаўцаў “Беларуськалія” да кіраўніцтва прадпрыемства? Вы іх не падтрымліваеце?**

**–** Мы цудоўна ведаем пра галоўнае патрабаванне ўсіх тых, хто са жніўня ўдзельнічае ў пратэстах, – каб Лукашэнка пакінуў сваю пасаду. Няўжо нарвежская кампанія вырашыць гэта пытанне?

І яшчэ. Я двойчы за апошні час быў у Салігорску, сустракаўся з прадстаўнікамі страйкама. Каля 60 чалавек былі на сустрэчы. Мы лічым сябе адным з ініцыятараў страйку, там шмат сябраў незалежнага прафсаюза. І менавіта нашы сябры стаяць на ўзважанай пазіцыі – што трэба падтрымліваць кампанію Yara.

Паўтаруся: як толькі сарвецца кантракт, адразу абвінавацяць у гэтым страйкамаўцаў, і ім свеціць рэальны арышт. Зараз людзі атрымліваюць суткі арышту і штрафы, але ж, дзякуй Богу, пакуль надоўга нікога не пасадзілі. У гэтым і палягае наша адказнасць.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

## «На падлогу тварам уніз!»

Не трэба быць асабліва назіральным, каб заўважыць відавочнае: з жыцця беларусаў знік святочны настрой. Растаў, выпарыўся, як туман у лагчыне перад спякотным днём. Святы ў календары засталіся, а настрой святочны прапаў. Вось і нядаўняе 8 Сакавіка, нягледзячы на тры выхадныя дні, прайшло неяк нязвыкла будзённа. Паныла спяшаліся на вуліцах мужчыны з букетамі. Паныла піхалі перад сабою возікі з прадуктамі для святочнага застолля маладзіцы ў супермаркетах. Паныла віншаваў сваіх работніц па БТ дырэктар нейкага завода.

Прычына гэтай паўсюднай паныласці адна – той тэрор, які распачала дзяржава супраць свайго ж народа. Ён працягваецца месяц за месяцам, ужо больш за паўгода, і, як выглядае, ніхто з улад ашалелую рэпрэсіўную машыну спыняць не збіраецца. Людзей хапаюць на вуліцах, у працоўных кабінетах, у крамах, у электрычках, ва ўласных хатах і кватэрах. Людзей розных прафесій, розных сацыяльных становішчаў, розных узростаў. Хапаюць – напаказ – масава, публічна і жорстка. Каб застрашыць прысутных, каб тыя ведалі, што заўтра можа прыйсці іхняя чарга. Жывучы ў такім напружаным чаканні, святочнага настрою і дома не знойдзеш, і ў суседа не пазычыш. Як спрадвеку казалі ў народзе: не да каляды, калі поўна хата бяды.

7 сакавіка напоўнілася бядой хата выкладчыцы Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту **Валерыі Дзяцук**. З самага ранку, калі сям'я яшчэ спала, у яе кватэру ўварваліся амапаўцы ў балаклавах. З крыкамі “Всем лежать! Работает ОМОН!” яны паклалі мала што цямячых спрасоння людзей на падлогу тварамі ўніз. Проста ў бялізне. Не даючы падняць галоў. Гаспадыня паспрабавала высветліць асобы нападнікаў, але, атрымаўшы ўдар па галаве, страціла прытомнасць. Правёўшы з яе мужам і сынам “прафілактычную” гутарку (“вся ваша семья у нас на крючке, всех посадим”), амапаўцы вывелі трохі акрыялую і заплаканую Валерыю Дзяцук з кватэры і звезлі з сабой.

Прачытаўшы такое ў крымінальнай хроніцы, абывацель падумае, што ў Гомелі быў высачаны і схоплены сацыяльна небяспечны злачынца, злачынца-макрушнік ці наркакур'ер. Але 66-гадовая Валерыя Дзяцук – паважаны ў горадзе чалавек, законапаслухмяная грамадзянка, кандыдат хімічных навук, выкладчыца дзяржуніверсітэта! Ніколі раней яна не прыцягвалася ні да крымінальнай, ні да адміністрацыйнай адказнасці. Паводле слоў яе сына, амапаўцы адразу ж запатрабавалі матчын смартфон і там нібыта знайшлі шуканае “злачынства” – каментарый пад нейкім пастом у сацыяльных сетках.

Ступень вінаватасці ці невінаватасць жанчыны павінен вызначыць суд, але хто даў права амапаўцам біць і зневажаць чалавека (хай сабе і ў нечым падазраванага) ва ўласнай кватэры? Ці ўжо прэзумпцыя невінаватасці ў нас таксамаператварылася ў фігавы лісток? Ці начальнік Гомельскага АМАПа падпалкоўнік **Міхаіл Дамарнацкі** спадзяецца такім чынам зарабіць генеральскія пагоны, як яго асабліва заўзятыя падчас хапуноў мінскія калегі?

“Всем лежать!” – самая распаўсюджаная апошнім часам і любімая сілавікамі каманда. У сеціве можна напаткаць дзясяткі відэаролікаў, на якіх напалоханыя грознымі воклічамі, збітыя з панталыку людзі (у краме, на тратуары, у дворыках пастарункаў) ляжаць ніцма, а між імі, як чорныя крумкачы між палеглымі на полі бітвы, паходжваюць ап'янелыя ад уласнай зверхнасці і ўседазволенасці істоты з дубінкамі.

“Всем лежать!” – такі мэседж зранку да вечара даносяць да народа БТ і ўсе астатнія дзяржаўныя СМІ. Відаць, у разуменні мукавозчыкаў і азаронкаў ляжачы народ і ёсць вяршыняй стабільнасці ў “сильной и процветающей” Беларусі.

“Всем лежать!” – палохае небаязлівае (падазрона доўга небаязлівае) грамадства новапрыняты прававы кодэкс з яго пасуровелымі артыкуламі і фантастычнымі штрафамі.

Нават той, з-за прыхамаці якога “не отдать любимую” ўжо больш за паўгода ўсю краіну калоціць і трасе нечуваная раней калатнеча, неяк у прыпадку шчырасці заявіў, што сыдзе са сваёй пасады толькі тады, калі дарэшты ўціхамірацца пратэсты. Гэта значыць, калі ўсе бязмоўна лягуць ніцма з рукамі на патыліцы.

Але гэта чарговы блеф. Пад ляжачы камень, як вядома, і вада не цячэ. Так і “пад ляжачы народ”, як сведчыць настаўніца жыцця Гісторыя, свабода ніколі не прыходзіць.

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Разам уратуем «Народную Волю»!

Паважаныя чытачы!

Шаноўныя валанцёры!

У чарговы раз вымушаны звярнуцца да Вас з просьбай. Паколькі да гэтага часу ўлады не знялі блакаду з друкарні, не дазваляюць распаўсюджваць газету праз «Белпошту» і «Белсаюздрук», «Народная Воля» працягвае выходзіць толькі ў электронным варыянце. Але гэта, на жаль, не спрыяе вырашэнню фінансавай праблемы. Вось чаму мы і сёння кажам: дапамажыце, калі ласка! Толькі разам мы зможам уратаваць «Народную Волю», галоўная місія якой – даносіць людзям **ПРАЎДУ.**

Ёсць некалькі спосабаў пералічэння грашовых сродкаў (даём у рускамоўным варыянце).

**1.Через ЕРИП:**

**СМИ – буква Н – Народная Воля – Добровольные взносы.**

**2.Через БАНК:**

**ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а**

**р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933, Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск**

**УНП 100961759, ОКПО 37381505**

**2.Подписаться на PDF-версию газеты «Народная Воля» можно на сайте *belpressa.by*.**

З надзеяй, шаноўныя прыхільнікі свабоднага слова, на ўзаемаразуменне.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

Народная Воля http://www.nv-online.info 10 САКАВІКА 2021 г.

СІТУАЦЫЯ

# Горкі роздум прафесара Мурашова

*З прафесарам кафедры журналістыкі Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы* ***Аляксандрам Мурашовым****, які адпрацаваў у ВНУ 12 гадоў, не працягнулі кантракт. 25 сакавіка ён, бадай, папоўніць шэрагі беспрацоўных. Студэнты аб'явілі збор подпісаў за яго аднаўленне на працы. Прафесар у роздуме.*



### «Беларусь стала маёй духоўнай Радзімай»

Аляксандр Мурашоў – грамадзянін Расіі, у Беларусі мае від на жыхарства. У Гродна ён прыехаў 12 гадоў таму. Спачатку выкладаў у ГрДУ ў якасці запрошанага прафесара, а ў 2008-м пераехаў у горад над Нёманам на сталае жыхарства.

Ён абсалютна адкрыты чалавек, не хаваючы эмоцый, распавядае, як палюбіў Гродна, чаму яму падабаюцца беларускія студэнты – цікаўныя, дасціпныя, неверагодна разумныя і талковыя. Ён добра арыентуецца не толькі ў ваколіцах Гродна, аб'ездзіў усю Беларусь і нават праводзіў экскурсіі ў Нясвіжы; ведае грыбныя мясціны, у яго тут шмат сяброў і знаёмых.

– *Беларусь без перабольшвання стала маёй духоўнай Радзімай,* – кажа Мурашоў. – *Я напісаў тут кніжак больш, чым у Расіі. Прыехаўшы ў Беларусь, я ўбачыў новую цывілізацыю, іншую культуру. Для мяне гэта было нешта кшталту шоку.*

### «Я вас абвінавачваю...»

Тое, што ў нашай краіне многае адбываецца зусім не так, як паказваюць па тэлевізары, Аляксандр Мурашоў пачаў заўважаць падчас мінулых прэзідэнцкіх выбараў.

– *Я ўжо ведаў пра справу прафесара Шведа і іншых гісторыкаў, якія зніклі з універсітэта,* – сумна заўважае выкладчык. – *І з гэтай нагоды пачаў губляць натхненне.*

Два гады таму А.Мурашоў напісаў ліст Лукашэнку, які, праўда, не адаслаў, а паклаў у шафу. Ліст праляжаў паўтара года, прафесар спадзяваўся, што ўсё яшчэ зменіцца, але надзеі не спраўдзіліся.

– *У маі 2020 года я дапісаў свой ліст Лукашэнку і змясціў яго ў "Фэйсбуку"*, – распавядае выкладчык.

У лісце гучала адкрытая крытыка палітыкі беларускага прэзідэнта. Дарэчы, ліст пачынаўся так: *"Грамадзянін Лукашэнка! Некалі найбольш гарачы і аддань ваш прыхільнік і па-ранейшаму чалавек, закаханы ў Беларусь, я вас абвінавачваю..."*

Абвінавачанняў было дзесяць: *"ва ўсталяванні рэжыму асабістага адзінаўладдзя, непадкантрольнага народу, у сістэматычным парушэнні правоў і свабод грамадзян, у пастаяннай хлусні, ва ўтойванні лічбаў і фактаў, якія характарызуюць сапраўднае становішча спраў у краіне"* і г.д.

Пасля гэтага пасыпаліся характэрныя тэлефанаванні, выкладчыку напорыста тлумачылі, што *"так думаеце толькі вы, а беларусы так не думаюць"*. Пазней Мурашоў выдаліў свае запісы з сеціва, бо баяўся, каб праз гэты зварот не пацярпелі яго калегі і студэнты. Аднак ад сваёй грамадзянскай пазіцыі не адмаўляецца.

– *Так, некалі я захапляўся Лукашэнкам, быў адданы яму, а цяпер, лічу, здраджаны ім,* – упэўнена кажа прафесар.

Жнівень мінулага года пацвердзіў, што так думае не толькі Мурашоў. Тэлефанавалі яго студэнты і расказвалі, як уцякалі ад АМАПа з выбарчых участкаў, дзе працавалі назіральнікамі. Сам удзельнічаў у дэманстрацыях, бачыў усё тое, што адбывалася на гродзенскіх вуліцах...

– *Я асабіста ведаю настаўнікаў, якія былі членамі выбарчых камісій і якія цяпер адчуваюць сябе абсалютна нікчэмнымі людзьмі з-за таго, што не змаглі супрацьстаяць фальсіфікацыям, ім прыкра глядзець у вочы дзецям,* – з горыччу кажа прафесар.

### «Не з тым ухілам працуеце, прафесар»

Месяц таму Мурашову намякнулі, што яму варта зняць сваю кандыдатуру з конкурсу на пасаду прафесара: *"Есть мнение, что вы этот конкурс не пройдете"*. Цікава, што напярэдадні абмяркоўвалі яго адкрытую лекцыю, і, як кажа спадар Аляксандр, столькі добрых слоў у свой адрас ён не чуў ніколі ў жыцці.

Затым прафесару адкрыта сказалі забраць заяву і не ўдзельнічаць у конкурсе, але ён адмовіўся. На чарговым пасяджэнні кафедры адміністрацыя факультэта ў колерах распісвала, наколькі важны і патрэбны другі кандыдат на пасаду прафесара, а пра Мурашова казалі толькі яго калегі.

Затым адбылося пасяджэнне кадравай камісіі, і, паводле слоў прафесара, ён пачуў пра сябе столькі, колькі не ведаў і сам. Даведаўся, што ў яго адсутнічае навуковая школа, не ўстаноўлены сувязі з вышэйшымі ўстановамі іншых краін, няма аспірантаў, якія абараніліся.

– *А адзін з членаў кадравай камісіі запытаўся, як я бачу сваю работу па патрыятычным выхаванні студэнтаў,* – згадвае Мурашоў. – *Я адказаў адным словам: ніяк.*

Прафесар Мурашоў быў шчыра здзіўлены такому пытанню, бо, паводле яго пераканання, выкладчык ВНУ павінен перш-наперш даваць студэнтам веды па сваім прадмеце.

– *Выкладчык – гэта прыклад для студэнтаў,* – упэўнены спадар Аляксандр. – *Калі ён любіць краіну, у якой знаходзіцца, і перыядычна ўзгадвае аб гэтым у сваіх курсах, то такім чынам і падае прыклад патрыятызму.*

Калі стала вядома, што кантракт з Аляксандрам Мурашовым не будзе працягнуты, яго студэнты аб'явілі збор подпісаў з патрабаваннем пакінуць на кафедры любімага выкладчыка. Але ж вядома, як кіраўніцтва ўніверсітэта ставіцца да іх меркавання…

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

РЭБУС

# 80 АРГАНІЗАЦЫЙ, якія падпарадкаваны Кіраўніцтву справамі прэзідэнта Беларусі

Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Беларусі падпарадкавана непасрэдна Лукашэнку, і, верагодна, грошы, якія беларусы пакідаюць у фірмах, што належаць гэтаму суб'екту гаспадарання, ідуць у тым ліку сілавікам.

Натуральна, кожны сам вырашае, што яму рабіць, куды хадзіць, дзе есці і як бавіць свой час, але нельга не ўлічваць і тое, што калі вы ў краме купіце ваду «Баравая», малако «Ле Шале» і «Малочны гасцінец», курыныя яйкі «Златка», сасіскі і каўбасу «Пікант», сыр і масла «Шчодрая Масленіца» ну і квіток «Ваша лато», то 100 працэнтаў вашых сродкаў пойдуць на падтрымку структур, якія напрамую падпарадкоўваюцца Кіраўніцтву справамі прэзідэнта.




**Выставачныя цэнтры і КЗ**
- Палац Рэспублікі.
- КЗ «Мінск».
- «Белэкспа».

**Турбізнес:**
- Дзяржаўнае прадпрыемства «Цэнтркурорт».
- Рэспубліканскі гарналыжны цэнтр «Сілічы».
- Дзіцячы аздараўленчы лагер «Планета».
- Санаторый «Баравое».
- Санаторый «Прыазёрны».
- Санаторый «Сосны».
- Санаторый «Юнацтва».
- Санаторый «Беларусь», Друскінінкай (Літва).
- Санаторый «Белая Русь», Туапсэ (Расія).
- Санаторый «Белоруссия», Ялта (Крым).
- Санаторий «Беларусь», Юрмала (Латвія).
- Санаторый «Беларусь», Сочы (Расія).
- Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Комплекс па аказанні паслуг імя П.М.Машэрава».

**Ахова здароўя:**
- Дзяржаўныя аптэкі «Беллекацэнтр».
- Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.
- Рэспубліканскі клінічны медыцынскі цэнтр.

**Гандаль:**
- Дзяржаўнае прадпрыемства «Беларусьгандаль» (крамы сеткі «АМАТЫСТА», вада «Баравая», лыжы і мэбля «Целяханы»).
- Вытворча-гандлёвы і гасцінічны комплекс «Кастрычніцкі» (рэстаран «Застолле», кафэ «Мінск», «Веста», «Манетны двор», «Меркурый»).
- «Лідо».
- Дыпмаркет (крамы DUTY FREE ў Нацыянальным аэрапорце «Мінск»).
- Гандлёвы дом «Усходні» (сетка канфіскатаў «Ваш выбар»).
- Гандлёвая сетка «Ваш выбар».
- Рэстаран «Родны Кут».
- Кафэ «Спатканне».
- Кафэ-шашлычная «Тры мушкецёры».
- «Палескія сувеніры».
- Гандлёвае прадпрыемства «Спадчына-Ваўкавыск».
- ГЦ «Кірмаш» (гандлёвая сетка «Кірмаш»).

**Прамысловасць:**
- Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
- Мінская друкарня (друк упаковак для прадуктаў харчавання, тытунёвых вырабаў, фармацэўтычных і прамысловых тавараў).
- Дзяржаўная лесагаспадарчая ўстанова «Краснасельскае».
- Дзяржаўная лесагаспадарчая ўстанова «Цяцерынскае».
- Белмастацпромыслы.
- ААТ «Мэбля Інтэр'ер цэнтр».
- Навукова-вытворчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства беларускіх народных рамёстваў «Скарбніца».
- Пінская фабрыка мастацкіх вырабаў «Крыніца Палесся».
- Аршанская фабрыка мастацкіх вырабаў.
- Гомельская фабрыка мастацкіх вырабаў «Любна».
- Хойніцкая фабрыка мастацкіх вырабаў.
- Слонімская фабрыка мастацкіх вырабаў.
- Мазырская фабрыка мастацкіх вырабаў.
- «Фабрыка мастацкіх вырабаў» г.Бабруйск.
- Магілёўская фабрыка мастацкіх вырабаў.
- Брэсцкая фабрыка сувеніраў «Славянка».
- Прадпрыемства мастацкіх вырабаў «Слуцкія паясы».
- Белмастацкераміка.
- Пінскі мясакамбінат.
- ААТ «Баранавіцкая птушкафабрыка».
- «Малочны гасцінец» (малочныя прадукты «Малочны гасцінец» і «Ле Шале»).
- Пружанскі малочны камбінат.
- Будаўніцтва і ЖКГ.
- Галоўнае ўпраўленне капітальнага будаўніцтва (арэнда памяшканняў, суправаджэнне ў будаўніцтве).
- Рамонтна-будаўнічы трэст (будаўніча-мантажныя работы, арэнда памяшканняў і будаўнічыя канструкцыі).
- Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне (швейная атэлье «LineA», інтэрнэт-правайдар «BELISP», web-студыя «7px», рэклама на сайце bc.by, абутковае атэлье Sabo, страхаванне, салоны прыгажосці «Masks», цырульні «Любаша», салярый, пральня, медыярэклама, хостынг і трэнажорная зала).
- Дыпсэрвіс (Dipservice Hall, Комплекс «Крылова», Комплекс «Сцяпанка»).
- БелЭЗ (Цэнтр прыгажосці «Твая тэрыторыя», вытворчасць вокнаў, дзвярэй, мэблі).
- Беларускі інстытут будаўнічага праектавання.

**Сельская гаспадарка:**
- ААТ «Александрыйскае» (сетка крам «Александрыя», вытворчасць мяса, рыбы, яблыкаў і грыбоў).
- ААТ «Васілішкі» (свініна і ялавічына, паўфабрыкаты і субпрадукты, рыба, яблыкі, ягады, малако, збожжа, хлеб і хлебабулачныя вырабы. Камбікорм для буйной рагатай жывёлы, свіней і рыбы).
- ААТ «Цяплічны камбінат Мачулішчы» (гандлёвая сетка, вытворчасць гароднiны).
- ААТ «Ціхінічы» (вытворчасць бульбы і яблыкаў).
- ААТ «ААБ-Агра Гарадзец» (вытворчасць мяса і малака).
- ЗАТ «ААБ-Агра Кухцічы» (вытворчасць мяса і малака).
- Рэспубліканскае даччынае ўнітарнае сельскагаспадарчае прадпрыемства «Усход» (Сыр «Мірскі»).

**Гасцініцы і гатэлі:**
- Гатэль «Мінск».
- Гасцініца «Планета».
- Гасцінічны комплекс «Юбілейны».
- Гасцініца «Прэзідэнт-Гатэль».

**Нацыянальныя паркі:**
- Нацыянальны парк «Белавежская пушча».
- Бярэзінскі біясферны запаведнік.
- Нацыянальны парк «Браслаўскія азёры».
- Нацыянальны парк «Прыпяцкі».
- Нацыянальны парк «Нарачанскі».

**Іншыя сферы дзейнасці:**
- «Белтрансспецаўта» (аўташкола «Белтрансспецаўта», дыягнастычная станцыя №20).
- Закрытае акцыянернае страхавое таварыства «Прамтрансінвест» (страхавая кампанія «Прамтрансінвест»).
- «Беларускія латарэі» (латарэі «Ваша лато» і «Пяцёрачка», анлайн-латарэя belbet, тыражныя латарэі, імгненныя латарэі).
- «Белзамежгандаль» (гандаль нафтапрадуктамі).
- ААТ «Гандлёва-лагістычны цэнтр «Азярцо-лагістык» (траспартныя і лагістычныя паслугі).

Скажыце, калі ласка, у якой яшчэ краіне ў прамым падпарадкаванні Кіраўніцтва справамі прэзідэнта знаходзіцца столькі гаспадарчых суб'ектаў? Атрымліваецца, што ў нас дзяржава ў дзяржаве? Хто кантралюе дзейнасць гэтых апекаваных вышэйшай уладай структур? Як яны ўпісваюцца ў агульную эканамічную сістэму Беларусі? Шмат іншых пытанняў узнікае, калі знаёмішся са спісам, які прапанаваны ўвазе чытачоў.

СОЛИДАРНОСТЬ

# В Вильнюсе прошел марш в поддержку политзаключенных белорусок

В Вильнюсе прошел марш в поддержку белорусок, которые находятся в заключении по политическим мотивам. Накануне 8 Марта люди вышли на центральные улицы с цветами и портретами женщин, подвергшихся репрессиям со стороны белорусских властей.

В выходные дни акции в поддержку белорусок также прошли во Вроцлаве, Осло, Дрездене, Белостоке, Варшаве.

По информации правозащитников, в Беларуси статус политзаключенной имеют 38 женщин, как минимум 49 находятся в местах заключения или под домашним арестом и не менее 75 – в статусе подозреваемых по уголовным делам. С начала избирательной кампании 2020 года против женщин в Беларуси заведено как минимум 141 уголовное дело.



РАЗБОР ПАЛЁТАЎ

## Аляксандр ЯРАШУК: «Пакуль нарвежцы ў Беларусі, страйкамаўцы ў бяспецы…»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**– Тады сам па сабе страйк можна лічыць бессэнсоўным?**

– Са страйкам трэба працаваць. Там, безумоўна, розныя людзі, і мы з павагай і захапленнем назіралі за тымі, хто ўваходзіў у страйк. Кожны такі ўчынак ўзрывае падмурак рэжыму.

Але што далей? У страйку ўдзельнічае каля 130 чалавек, і на працу "Беларуськалія" гэта ніякім чынам не ўплывае. Прадпрыемства як працавала, так і працуе. Як утрымліваць страйк? Хто будзе гэта рабіць? Тыя, хто заклікае нарвежскую кампанію не падпісваць кантракт? Падбухторваць – самае лёгкае рашэнне. А хто возьме на сябе адказнасць за лёсы людзей, якія застануцца без працы?

Таму трэба разумець, што і Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў, і страйкамаўцы знаходзяцца на адным баку барыкад. Але рашэнні трэба прымаць разумныя.

**– Лідар страйкама "Беларуськалія" Анатоль Бокун таксама выступае за тое, каб Yara не падпісвала кантракт з беларускім прадпрыемствам. Вам вядома яго пазіцыя?**

– Хачу сказаць, што я да Анатоля стаўлюся з выключнай павагай. Гэта вельмі прынцыповы чалавек, але, як мне падаецца, ён таксама знаходзіцца пад уплывам пэўных эмоцый.

Падчас нашых апошніх сустрэч я казаў яму: "Толя, мы на адным баку, ты не павінен у нас сумнявацца". Я ведаю, былі планы, што Yara пакіне Беларусь, страйкамаўцаў арыштуюць і можна будзе цалкам зачысціць на "Беларуськаліі" пляцоўку.

Таму я хацеў бы папрасіць Анатоля Бокуна, каб страйкам не быў марыянетачным і не ўдзельнічаў у чужых сцэнарыях. Імі, здаецца, маніпулююць. Разумееце, калі доўга глядзець у люстэрка таталітарызму, то з часам і сам становішся носьбітам таталітарнага мыслення.

Калі нарвежцы не падпішуць кантракт, то што, гэта вырашыць праблемы страйкамаўцаў? Ніякім чынам.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РЭПРЭСІІ

# Вынесены адзін з самых суровых выракаў за паслявыбарныя пратэсты



У Мінскім гарадскім судзе разгледжана справа ў дачыненні да 45-гадовага бізнесмена **Аляксандра Троцкага**. Суддзя **Сяргей Хрыпач** прызнаў яго вінаватым і пакараў 10 гадамі зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму за наезд на супрацоўніка ДАІ. Акрамя таго, Троцкі мусіць выплаціць пацярпеламу інспектару 10 тысяч рублёў кампенсацыі.

Гэта адзін з двух самых суровых выракаў, які вынеслі ў сувязі з пратэстамі супраць рэжыму Лукашэнкі, што пачаліся 9 жніўня 2020 года. Такое ж пакаранне прызначыў Брэсцкі абласны суд **Аляксандру Кардзюкову**, якому далі 10 гадоў за нібыта замах на забойства сілавіка.

Пракурор **Антон Цюменцаў** прасіў для Аляксандра Троцкага 11 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.



Суд над Аляксандрам Троцкім.

RFERL (RFE/RL)

У апошнім слове Аляксандр Троцкі паўтарыў, што спалохаўся нападу невядомых у чорным, бо якраз з'явіліся відэа збівання мірных людзей, ён гэтыя відэа бачыў і стараўся такога пазбегнуць. Троцкі папрасіў прабачэння ў сваякоў і знаёмых, у тым ліку ў 40 работнікаў сваёй фірмы. Пра пацярпелага ў апошнім слове Троцкі нічога не сказаў. Пасля агучвання прысуду Аляксандр заявіў, што будзе абскарджваць яго.

## Сваякі спадзяваліся на апраўданне

Жонка Аляксандра Троцкага да апошняга спадзявалася на апраўдальны вырак.

– *Хацелася верыць у справядлівасць*, – сказала **Ірына Троцкая** і расплакалася. Сабраўшыся з сіламі, жанчына дадала: – *Мой муж – вопытны кіроўца, ён не збіраўся на кагосьці наязджаць. Мяркую, супрацоўнік ДАІ сам скокнуў на капот. Ён жа прызнаваў у судзе, што парушыў інструкцыю, не павінен быў стаяць побач нават з дзверцамі, не тое што перад капотам. Калі на мужа наставілі зброю невядомыя, ён сапраўды мог спалохацца.*

Жанчына сказала, што прысуд абавязкова будзе абскарджаны.

Сын Троцкага таксама заўважыў, што супрацоўнік ДАІ парушыў службовую інструкцыю пасля таго, як спыніў аўтамабіль, у якім ехаў ягоны бацька.

– *На маю думку, справа не цягне нават на непадпарадкаванне, а не тое што на замах на забойства. Юраў сам прызнаў у судзе, што стаяў перад капотам, дзе стаяць нельга. Сведкі-міліцыянеры пацвярджалі, што кіроўца як крануўся, вывернуў руль налева, хацеў аб'ехаць супрацоўніка ДАІ, дык як той аказаўся на капоце, калі не сам на яго заскочыў?* – пытаецца **Даніла Троцкі** і заўважае: у справе не аказалася ніводнага відэа падзей 12 жніўня на праспекце Пераможцаў, якія адбыліся з удзелам яго бацькі: – *Колькі ў тым месцы на праспекце відэакамер, і раптам ніводная не працавала. І відэарэгістратары чамусьці аказаліся адключаны. Абарона запытвала відэа, але адказалі, што ўсе не працавалі. Як такое можа быць?*



Сяброўка суцяшае Ірыну Троцкую.

Даніла Троцкі не выключае, што з дарожнага інцыдэнту з удзелам яго бацькі зрабілі гучны крымінал наўмысна.

– *Яны ж кажуць пра больш як 200 нападаў на міліцыянераў, чаго вартыя гэтыя напады, мы сёння бачым.*



Траўмы Аляксандра Троцкага пасля затрымання сілавікамі.

## Што вядома пра інцыдэнт і абвінавачанне

Інцыдэнт адбыўся 12 жніўня на праспекце Пераможцаў у Мінску, дзе праваахоўнікі ў балаклавах і са зброяй спынялі для праверкі аўтамабілі. Паводле меркавання дзяржаўнага абвінаваўцы, у судзе даказалі злачынныя дзеянні падсуднага Троцкага і ягоны намер менавіта забіць супрацоўніка ДАІ.

Былы топ-менеджар банка «МТБ» Аляксандр Троцкі сцвярджае, што з'ехаў з месца, дзе яго спынілі людзі са зброяй, бо яны не назваліся, не сказалі прычыну спынення аўтамабіля і наставілі на яго зброю, а ён спалохаўся за сваё жыццё. Паводле слоў падсуднага, ён наехаў на маёра ДАІ выпадкова і гатовы кампенсаваць нанесеную шкоду.

Пацярпелы **Уладзімір Юраў** падчас інцыдэнту атрымаў траўмы нагі, якія экспертыза прызнала няцяжкімі. Пацярпелы запрасіў 20 тысяч рублёў кампенсацыі ад Троцкага. Пракурор іск падтрымаў і прасіў задаволіць яго "з улікам разумнасці".

Абаронца Аляксандра Троцкага адвакат **Яўген Маслаў** у спрэчках даказваў, што ягоны падабаронны не меў намеру замахвацца на жыццё супрацоўніка ДАІ і не нападаў на яго, а з'ехаў таму, што моцна спалохаўся за свае жыццё, калі на яго наставілі зброю і былі гатовы страляць. Паводле перакanання абаронцы, у выстаўленым Троцкаму цяжкім абвінавачанні ў замаху на жыццё міліцыянта ён не вінаваты.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# За чьи деньги удерживаются на плаву убыточные заводы?

Не секрет: большое количество крупных государственных предприятий Беларуси уже много лет подряд фактически работают в убыток. Бюджетными дотациями, займами, директивными льготными кредитами власти удерживают их на плаву. Однако дальнейшее их содержание за счет бюджета, а точнее за счет налогов миллионов людей, в конечном счете может обернуться тяжелыми последствиями.

Немного конкретики. Еще в 2015 году ОАО «Гомсельмаш» были предоставлены бюджетные займы в валюте на сумму 297 млн долларов. Средства были получены через выпуск Минфином валютных государственных долгосрочных облигаций, которые купили «Беларусбанк», «Альфа-Банк», «Белвнешэкономбанк» (ныне «БелВЭБ») и «Белгазпромбанк». Другими словами, министерство занимало у банков, чтобы оказать бюджетную поддержку «Гомсельмашу». Облигации, как, соответственно, и займы, должны были погашаться в 2019–2022 годах. Однако ввиду финансовой несостоятельности «Гомсельмаша» сроки возврата займов отнесены до 2029 года. Кроме того, предприятие получило отсрочки списания убытков по курсовым разницам до конца 2025 года. В 2020 году Госкомитет по имуществу Беларуси выставил на продажу по конкурсу 49,9 процента акций «Гомсельмаша» (100 процентов акций принадлежит государству) на сумму 500 млн долларов. В качестве потенциальных покупателей рассматривались профильные компании Казахстана и Китая. Однако, видимо, ознакомившись, с условиями продажи (а это требования не сокращать персонал, покрыть все долги предприятия), они от сделки отказались. Собственный капитал «Гомсельмаша» в разы меньше его уставного фонда. Такая разница происходит из-за огромного непокрытого убытка прошлых лет. Если же показывать финансовые результаты предприятия, как того требуют Международные стандарты финансовой отчетности (МФСО), то «Гомсельмаш» является беспросветным банкротом.

Вот другой пример. Прибыль Белорусского металлургического завода от реализации товаров, работ и услуг за 2020 год составила 3,27 млн рублей. Чистая прибыль завода составила мизерные 36 тысяч рублей. Краткосрочные обязательства БМЗ на конец года достигали 3,85 млрд рублей. Завод имел просроченную задолженность свыше 320 млн рублей. Значительную часть долга БМЗ взяло на себя Министерство финансов, выпустив в этом году валютных гособлигаций н сумму более 600 млн долларов, которые выкупили банки. При этом банки из этой задолженности списывают 15 процентов. Часть валютного долга завода, а это около 400 млн долларов, трансформирована в бюджетный заем в белорусских рублях со сроком погашения до 2050 (!) года включительно. Как и в случае с «Гомсельмашем», власти спасают БМЗ от полного банкротства. Оба предприятия, как и множество других госпредприятий, поддерживаются кредитами по льготным ставкам, то есть директивными, пониженные проценты которых компенсируются банкам из того же бюджета. Например, в прошлом году кредиты выдавались под ставку 8,75 процента годовых, но сами кредитополучатели возвращать долг будут под 2,75 процента. Остальные недостающие до рыночной ставки проценты вернут банкам опять за счет бюджета, точнее, за счет всех налогоплательщиков.

Тем временем на БМЗ бездумные руководители продолжают увольнять рабочих за гражданскую позицию. Международный профсоюз IndustriALL вступился за права уволенных работников. В случае, если руководство завода не восстановит на работе уволенных людей, профсоюз намерен обратиться к ключевым партнерам БМЗ, которые связаны с IndustriALL глобальными соглашениями. Вот так цивилизованный мир протягивает руку помощи белорусским рабочим.

Нельзя не сказать о Минском тракторном заводе. В 2020 году он произвел продукции почти на 1,7 млрд рублей. Чистая прибыль МТЗ составила мизерные 6,9 млн рублей. Мизерные, если учесть, что суммарно долгосрочные и краткосрочные обязательства завода превысили 1,3 млрд рублей, при этом дебиторская задолженность превысила 1 млрд рублей. Заводу не платят многие покупатели. В 2020 году МТЗ вообще мог показать убытки, но предприятию помог все тот же указ №159 об особом списании курсовых разниц, позволив списывать их не по факту образования, а растягивая на два года. Непокрытый убыток МТЗ составил 27,9 млн рублей, и пока совершенно не ясно, за счет чего завод будет покрывать отрицательные курсовые разницы и отложенные убытки.

Учитывая накопленные задолженности, практически убыточными предприятиями остаются МАЗ, «Белшина» и многие другие. Если у предприятий и есть прибыль от реализации продукции, то она съедается убытками от финансовой и иной деятельности, накопленным непокрытым убытком прошлых лет.

Белорусский автомобильный завод (БЕЛАЗ) выпустил новые облигации на 100 млн долларов. Согласно проспекту эмиссии, размещение трехлетних ценных бумаг осуществлено путем закрытой продажи четырем банкам – «Беларусбанку», «Белагропромбанку», «БПС-Сбербанку» и «БелВЭБу». Причем доходность облигаций на уровне 7 процентов, что для валютных долговых бумаг весьма высокий показатель. Гасить-то облигации придется эмитенту – БЕЛАЗу, у которого выручка за 2020 год обвалилась на 58 процентов. В 2018 году госкомпания продала продукции более чем на миллиард долларов, но по итогам 2019 года выручка составила 1,5 млрд рублей. Предприятие рассчитывает, что выручка 2021 года будет только 1,067 млрд рублей, прогноз по чистой прибыли составляет лишь 10 млн рублей.

Общеизвестно, что Банк развития, имеющий особый статус, использует эмиссию своих облигаций с целью привлечения бюджетных и внебюджетных средств для кредитования госпредприятий, в том числе и для директивных кредитов. Лимит этого кредитования правительство и Нацбанк постоянно увеличивают. На 2020 год он был поднят до 750 млн рублей. Прирост лимита директивного кредитования почти полностью был направлен на финансирование внутреннего лизинга, то есть на увеличение за счет лизинга платежной способности основных белорусских покупателей продукции МТЗ, «Гомсельмаша», МАЗа, а это в основном сельхозпредприятия, как компенсация сокращения экспортного спроса.

Согласно постановлению Совмина от 9 февраля 2021 года (№78), объем директивного кредитования в 2021 году предусмотрен в сумме 425 млн рублей. Причем «Беларусбанк» выделит 271,3 млн рублей, «Белагропромбанк» – 77,5 млн, Банк развития – 76,1 млн рублей. Не сомневаюсь, что эти цифры будут значительно перекрыты. Банк развития в текущем году сможет выпустить облигаций на 570 млн рублей. Таким образом, порочная практика финансовой поддержки государственных флагманов будет властями продолжена.

Проблема убыточных предприятий становится с каждым годом всё острее. Сегодня их почти четверть. В 2020 году три укрупненных вида промышленного производства показали чистые убытки. В промышленности самые крупные чистые убытки за год показали деревообработка и целлюлозно-бумажная отрасль (407,5 млн рублей). В 2019-м в этом секторе была чистая прибыль на сумму 238,7 млн рублей. Убытки деревообработчиков образовались за счет кратного роста потерь убыточных компаний – в 13 раз до 607,9 млн рублей. Также большие убытки по конечным финансам продемонстрировали производители неметаллических минеральных продуктов – 228,2 млн рублей. Годом ранее в отрасли фиксировалась чистая прибыль в объеме 101 млн рублей. Здесь также произошел кратный рост потерь убыточных предприятий – в 3,6 раза до 515,8 млн рублей. Валообразующие предприятия в данном случае – это «Белшина», три цементных завода в Гродненской и Могилевской областях, предприятия стекольной промышленности. С убытком 4,9 млн рублей предварительно закрыли 2020 год производители машин и оборудования. В 2019-м по отрасли отмечалась чистая прибыль в 501,3 млн рублей. Потери убыточных компаний в машиностроении выросли в 2,5 раза до 321,7 млн рублей.

Приведем слова А.Лукашенко на пресс-конференции для белорусских СМИ: «*Закрыть эти предприятия? Избавиться от этого, оставить тех, кто выживет. Ну и что будет, куда пойдут тысячи людей МАЗа, БЕЛАЗа, «Гомсельмаша», других предприятий? Куда они пойдут? Им идти некуда! Поэтому у нас выхода нет, нам надо сохранить трудовые коллективы. А их сохранить можно, только сохранив эти предприятия*». Нет спору, закрытие убыточных предприятий обернется проблемой для тысяч уволенных людей. Но и их содержание за счет госбюджета, то есть за счет всех нас, налогоплательщиков, ведет к не менее тяжелым последствиям. Многолетняя практика возмещения убытков ведущих госпредприятий породила экономическую модель, которая в конце концов приведет к краху всю белорусскую экономику. Получается, что белорусы выпускают трактора, самосвалы, сельхозтехнику и много еще чего – всем миром. Белорусские государственные предприятия, как уже давно подмечено, выполняют не экономическую функцию, а социальную: лишь бы не было безработицы. Рано или поздно, как в той известной сказке о Золушке, белорусские флагманы-кареты превратятся в тыквы.

Подобная практика порождает иждивенческие настроения. Зачем работать эффективно, если убыточные или проблемные в финансовом отношении предприятия получают массу льгот, дотации, кредиты, которые не надо отдавать? Получается, что одни предприятия работают за счет других, более успешных, а последним в результате не достает средств на развитие своего производства. Практика, когда банки директивно кредитуют убыточные сельхозпредприятия, чтобы они купили сельхозтехнику у убыточного завода, создает антистимулы для эффективной работы. В нормальной рыночной экономике банки никогда не будут кредитовать убыточные предприятия. Доля проблемных, не обслуживаемых кредитов в белорусской экономике достигла критических 15 процентов и продолжает увеличиваться. Предпринимаемые властями замены руководителей предприятий, передачи предприятий на поруки тому же Банку развития, другим банкам проблемы не решают. В конце концов есть опыт решения подобных проблем в других странах. Чешская «Шкода» выпускала допотопные автомобили, после продажи предприятия немецкому «Фольксвагену» результаты налицо. В свое время МАЗ успешно сотрудничал с МАНом. Почему это сотрудничество не получило развития?

Вместо растрачивания народных денег почему не повысить пособие по безработице до минимальной зарплаты или минимального потребительского бюджета и не организовать переобучение высвободившихся работников на новые специальности? Это предложение давно висит в воздухе. Бесконечная поддержка финансово и экономически несостоятельных предприятий, которые выпускают неконкурентоспособную, не востребованную покупателями продукцию, – это дорога в никуда. В такой экономике еще десять лет «всем по пиццот» не будет.

